# Беларускі Звон

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ.

| Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Біскупская вул. 12. Рэдакцыя адчынена: 12—2 штодня апрача сьвяточных дзён. | Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым прозьвішчам аўтора і адрэсам (для ведама Рэдакцыі). Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. | **Цана кожнага нумару 30 м.** Падпіска на 3 месяцы каштуе 400 м. (з даст. да хаты). Цана абвестак: перад тэкстам 150 мк., сярод тэксту 200 мк. і на апошняй страніцы 70 мк. за радок пэтыту ў 1 шпальт |
|---|---|---|

Год I. Вільня. Пятніца, 2-га сьнежня 1921 г. № 22.

## Ніякіх зьменаў.

Назначэньне старшынёю Часовае Урадуючае Камісіі Сярэдняе Літвы п. А. Мэйштовіча і замераная перадача яму гэнэралам Жэлігоўскім вярхоўнае ўлады ў Сярэдняй Ліцьве наводзілі грамадзянства, як відаць, на думку аб тым, што ўрадаваньне ў гэтай Сярэдняй Ліцьве пацягне за сабою пэўныя зьмены палітычнага курсу ў той, ці іншы бок, а абывацельскія, прывыкшая жыць надзеямі, душы пэўна-ж спадзяваліся нейкіх зьменаў да лепшага.

Прэс-бюро Час. Урад. Камісіі С. Л. сваім выступленьнем на тэму аб урадовых зьменах расьсейвае ўсе і якія-нібудзь надзеі на лепшае і тыя, ці іншыя незразуменьні падзеяў гэтых дзён. Бо афіцыяльна абвяшчаецца, што ніякіх зьменаў у мэтодах урадаваньня ў Сярэдняй Ліцьве зьмены пэрсональныя прадстаўнікоў улады—за сабою не нясуць.

Незразумела, такім чынам, на што і каму спатрэбілася перадаваць функцыі вярхоўнае ўлады з адных рук у другія? Тлумачыцца гэта афіцыяльна тым, што з дня на дзень чакаецца актыўная падгатоўка і правядзеньне выбараў у Віленскі Сойм і ў гэткім часе гэн. Жэлігоўскі лічыць за лепшае адыйсьці ад улады.

Есьць газэтныя гутаркі аб тым таксама, што зьменяцца на лепшае варункі жыцьця прэсы, за поўную волю якое выказваецца быццам Старшыня сучаснае Урад. Камісіі п. Мэйштовіч.

Але з другога боку, як пагадзіць гэта з заявою гэнэральнага камісара па выбарах п. К. Забержоўскага, што ў часе выбараў будуць выданы распараджэньні, якія строга караціму́ць тых, хто будзе перашкаджаць нормальнаму ходу выбараў.

Быць можа гэтыя вось самыя „карацельныя“ распараджэньні ўдасца гэтак ідэальна зрэдагаваць, што карай яны будуць сапраўды толькі для людзей злое волі, для праступных, а ня ідэйных агітатараў?

Для краю, які варыцца ў катле нацыянальнага антаганізму, дзе аб нацыянальнай роўнасьці мала цяпер можа быць гутаркі, трудна аднак і прысьніць ідэальны які-небудзь закон, які тут заўсёды творыцца аднабокаю, аднанацыянальнаю па сваім асабістым складзе, ўладаю. То-ж ні Беларусаў, ні Ліцьвіноў, ні Жыдоў няма ў складзе хаця-б аднаго толькі вышэйшага органу ўлады—Ч. У. Камісіі.

Урадуюць у *Сярэдняй Ліцьве* палякі і толькі польскае насяленьне можна лічыць належна падрыхтованым да будучых выбараў.

Іншыя нацыянальнасьці краю, калі-б яны навет і хацелі, падгатавацца, як трэба да выбараў не маглі пры істнуючай аднабокасьці Ураду.

Адсюль сам сабою напрашваецца вывад, што аднабокасьць Ураду дасьць гэткую-ж самую аднабокасьць выбараў. Да выбараў будзе мець дачыненьне толькі тое насяленьне краю, празванага Сярэдняю Літвою, якое лічыць сябе польскім па нацыянальнасьці.

Бо, як гэта ні дзіўна, а ў сваёй, як той казаў, бацькаўшчыне, хоць і *Сярэдняй* а ўсё-ж такі *Ліцьве* нічога ня чуваць аднак аб рыхтаваньні літоўцаў да соймавых выбараў.

І тут ужо патрэбна чыста-сярэднялітоўская мудрасьць, каб разрашыць гэтае сярэднялітоўскае непаразуменьне.

Аканчальна пастаноўленая справа скліканьня Сойму быццам з неба звалілася гэтак сама й на Беларусаў і Жыдоў, хаця аб справе гэтай гутарка даўно ўжо то зьніжалася, бы хваля, то падрастала з новаю сілай.

Перад самымі выбарамі ў Сойм, Віленскі Беларускі Нацыянальны Камітэт спакойна робіць шторочнюю рэарганізацыю свайго асабовага скаду, захапляючы шырэйшы круг нацыянальных арганізацыяў.

Нацыянальны Камітэт раз прыняў адпаведную беларускім нацыянальным жаданьням дэкларацыю аб Сойме ў Вільні, даведзеную ў форме мэморыялу да Лігі Народаў.

Жаданьні беларускія можа й утопічнымі здаюцца для каго-нібудзь у параўнаньні з тым, што тут рабілася і робіцца, але пры іх мусі, раз выказаных, Нацыянальны Камітэт Беларускі застанецца й далей. Яно й ня дзіўна будзе—калі ніякіх зьменаў, дык і тут:

— Ніякіх зьменаў.



## Банкруцтва і рэвізія.

Кожнаму відаць цяпер поўнае банкруцтва бальшавіцкіх надзеяў на ўсясьветную соцыяльную рэвалюцыю і пяруністы ход назад усяе дасюлешняе іх тактыкі, галоўным чынам, у гаспадарчым жыцьці так званай Р. С. Ф. С. Р. з усімі яе васальнымі рэспублікамі.

Відаць ужо выразна гэтак сама поўную рэвізію калі ні цалком самае праграмы камуністых, дык хоць-бы самое камуністычнае партыі.

Іншага трудна было й спадзявацца ў краі, дзе яшчэ так нядаўна цьвіло рабства.

Больш як паўтараста-мільённая маса былых п а д д а н ы х цара ў большасьці сваёй наўрад ці магла, як належыць, адрозьніць правую руку ад левае, а ня то што партыі адну ад аднае.

Партыя, як такая, можа быць названа моцнаю тады, калі складаецца яна з партыйна-сьпелага элемэнту.

А ў праціўным выпадку, распухшая толькі голым арытмэтычным лікам сваім, партыя робіцца ўжо ня партыяй, а псыхолёгічнаю масаю.

Трудна сказаць, напрыклад, ці партыяю быў „Саюз рускага народу“, ці партыяю зьяўляецца сучасная польская эндэцыя, ці партыяй былі соцыялістыя-рэвалюцыянэры пры панаваньні Керэнскага?

Не! Хутчэй гэта былі і ёсьць пэўныя псыхолёгічныя масы, чымся партыі.

Псыхолёгічнаю, казённаю масаю пачала рабіцца й камуністычная партыя Леніна, зьвёўшага соцыялістычны прынцып дыктатуры пролетарыяту да прынцыпу партыйнае, а праўдзівей свае ўласнае дыктатуры.

Спрытны на розум павадыр расейскага камунізму загадзя пачаў чысьціць сваю партыю ад элемэнтаў казённага камунізму, якія наймацнейшую маглі-б зрабіць опозыцыю цяпер пры розных гандлярскіх зносінах з кітамі сусьветнага капіталізму й імпэрыялізму.

Ці ўратуе толькі партыйная гэтая чыстка камуністых на іх цяперашнім палажэньні ўрадовае расейскае партыі?

Пакуль што фікцыя „савецкае“ ўлады, а фактычная ўлада камуністыхкамісараў яшчэ трымаецца і магчыма, што пратрымаецца далей — да адкрытага разладу ўнутры самое псыхолёгічнае масы камуністых.

Робэсп‘ерызм Бухарыных, Дзяржынскіх і Троцкіх наўрад ці адважыцца пайсьці адваротным шляхам Леніна (з яго вернымі) да старых спосабаў буржуазнага гаспадараваньня, буржуазных прынцыпаў грамадзкага жыцьця, а там, быцьможа, і буржуазнае палітыкі, адпаведнага гэтай палітыцы ўраду і інш.

Такім чынам найвярнейшы канец бальшавіцкаму панаваньню можа прыйсьці толькі з сярэдзіны самое ўрадовае партыі пры яе раней, ці пазьней няўхільным раскладзе.

Але, што-ж можа прынясьці упадак бальшавізму ў Расеі (і ведама-ж разам і ў Савецкай Беларусі!) нам, беларусам?

На пытаньне гэтае ніяк ня можна даць пэўнага адказу. А задумацца над ім ня грэх было-б шырэйшаму кругу нашага грамадзянства, якое польска-расейскім рыжаскім мірам парасьцярушвана ўсюды на эміграцыі, а таксама, пазбаўленае вольнага нацыянальнага жыцьця, шчапаецца ў друбязгі й седзячы на роднай зямлі.

Трэба думаць, што так, ці йначай, а назаўтра-жа пасьля зьнішчэньня бальшавіцкага рэжыму, які-б там ні было новы расейскі ўрад падніме пытаньне аб пераглядзе розных дагавораў бальшавікоў з іншымі дзяржавамі. У тым ліку найважнейшым трэба лічыць дагавор у Рызе, перагляд якога а ніяк ня можа не закрануць Беларусі.

З другога боку трэба ўсё-ж такі згадзіцца з праўдаю, што з усіх расейскіх партыяў, адны толькі бальшавікі афіцыяльна прызналі права Беларусі на незалежнасьць, у той час, як з эміграцкіх расейскіх групаў рэдка хто моцна прызнаецца ў гэтым.

А расейскія эс-эры пры Керэнскім чулі сябе гэтак моцнымі панамі палажэньня, што адзін з іх—менскі гарадзкі галава—заявіў, здаецца пры нямецкай окупацыі, прадстаўніку беларускіх эс-эраў, што калі яны хочуць самаазначацца, дык хай самаазначаюцца на вуліцы.

Аб рэакцыі наагул у Расеі пасьля бальшавізму ня прыходзіцца й гадаць.

Уся саранча золатапагоннага монархічнага афіцэрства, што ў некаторых мясцох заграніцы сядзіць, яшчэ не паскідаўшы палетаў сваіх, калі вернецца дадому, дык нацыяналістычны дух маскоўцаў можа перарасьці меру царскіх часаў.

„Инородцы“ ведама-ж пачнуць лічыцца рэакцыяю за зьлейшых ворагаў „единой недѣлимой“ і рэвалюцыйныя нацыянальныя здабыткі не-велікарусаў могуць апынуцца пад пагрозаю прасьледаваньня, тым больш, што кожную праяву нацыянальнага жыцьця рэакцыя без вялікіх трудоў зможа падводзіць пад разуменьне яе, як рэзультату бальшавіцкага панаваньня.

І спрачацца з гэтым будзе тым трудней, бо бальшавікі, яшчэ бяручы толькі ў свае рукі ўладу ў Расеі агаласілі права „самаазначэньня аж да аддзяленьня“. Іншая рэч, як яны прызнавалі гэтае права на практыцы, разганяючы Ўсебеларускі Зьезд у 1917 годзе ды абвяшчаючы тады вайну Украінскай Цэнтральнай Радзе і г. д., а нядаўна яшчэ зруйнаваўшы соцыяль-дэмократычны ўрад Грузіі.

Слова з дзелам шмат калі ня сходзілася ў бальшавікоў, але ці-ж разьбярэцца ў гэтым цьвяроза новая магчымая псыхолёгічная маса расейскай рэакцыі, калі ўдасца ёй, нарэшце, ап‘янець ад улады?

А калі запануе на той ці іншы час ізноў дэмократычная інтэлігэнцыя накшталт удасканаленай керэншчыны ў сучаснай Р. С. Ф. С. Р., дык ці-ж ёсьць пэўнасьць, што дэмократыя гэта навучылася, як трэба, разумець смак няволі і выгнанства?

Праз гэта ўсё—відочнае банкруцтва бальшавікоў і агонійная рэвізія імі партыі і тактыкі ніяк ня можа ня стрывожыць палітычнае думкі сьвядомага беларускага грамадзянства, бо для кожнага на чаргу становіцца пытаньне:

„Сягоньня ёсьць Беларусь, хоць і куртатая, хаця й савецкая, а што-ж заўтра будзе?“.

Вось кардынальнае палітычнае пытаньне, якое нарастае ўва ўсёй меры

сваёй перад усім беларускім грамадзянствам. Крах бальшавізму не павінен застаць нас на палітычным раздарожжы.

Бо перад будучынай гаснуць усе трывожныя пытаньні сягоньняшняга дня...

**М. З.**

# Маленькі фэльетон.

## Слоўная анархія.

„Пішы—як чуеш, чытай—як бачыш“, сказалі некалі простадушныя украінцы і пачалі пісаць ды чытаць паводле гэтага прынцыпу.

За імі й «Наша Ніва» беларуская пісалася й чыталася, па магчымасьці гэтак сама. Доўга жыла гэтая часопісь, весяліла кожную граматную душу беларускую і нейкія зарысы правапісу сяк-так усталявала.

Далей-болей, сялянскі сын беларускі Тарашкевіч Браніслаў пасьля доўгіх навук ужо і граматыку вельмі грунтоўную напісаў.

Але, як на грэх, мы ўсе вельмі разумныя і ні то перамудрыць хочам Тарашкевіча, ні то замест Амэрыкі хочам Амерыку знайсьці, толькі вось ніяк ня можам дайсьці да пеўнай пэўнасьці ў правапісе, а пішам кожны так, я у галаве заверне.

Ну, а яно-ж ведама: «што галава, то розум».

Адзін, напрыклад, жаліцца, што прозьвішча яго замест „е“ праз „я“ напісалі, тымчасам, як у яго шляхоцкіх дакумэнтах ніякага „я“ і сьледу няма.

Другі хоча, мусі, быць падобным да італьянца і, па старой памяці спакойных царскіх часаў, упарта піша сваё прозьвішча на «о», асабліва, калі «о» гэтае на канец прыходзіцца.

Трэйці цуды творыць і проста мудрыя заморскія словы на ўсю сілу стараецца замяніць свойскімі, іншы раз гэтак на скорую руку самім сабою створанымі, альбо з якога-нібудзь цёмнага, невядомага кутка Бацькаўшчыны выцягненымі.

Пяты.. Ай, што там пяты? Можа быць і дзесяты, дык што-ж там з гэтага...

Вось ня ведаю толькі, каторым гэта ўжо буду я?

А рэч цікавая. Калі анархія, дык анархія — папрабую і я, думаю, якую-небудзь „правапісь“ замест правапісу выпусьціць.

Дык яно мо‘ й ня дрэнна, што падумаў аб гэтым я... сплючы, прысьніў значыцца, а то якраз яшчэ адзін лішні расход грамадзкі на выданьне быў-бы.

Ну, для мяне, дык яно—байкі: імя затое зрабіў-бы сабе ня меншае за Тарашкевічава.

Але што прысьніў, то прысьніў, трэба хаця сном сваім з грамадзянствам падзяліцца...

---

Ляжу гэта я і думаю: а што, каб пачаць ну, хоць-бы вершам пісаць адно пры адным розныя гэткія незразумелыя словы, каб ні на якую іншую мову ніхто іх ня мог пераклaсьць, каб былі яны зусім поўным ідыятызмам!

Ідэя! Пачынаю:

У лесе лёсым, лесу лёса
Стоць стаіць яго мільён
Глюгі бачу ў паднябёсах,
Пруцца качкі на паўдзён.

Вось і нямудра, здаецца, як на мой розум, а папрабуй, разьбярыся тут хацябы й сам профэсар Карскі.

— Аднак, можа і памяць разьвеяцца, запішу тымчасам свой першы ўдалы твор у блёк-нот, праз гадоў дваццаць назьбіраю гэтак цэлы ворах, а там як-нібудзь выдам і во... які том вывалю на наш небагаты кніжны рынак. Ну, каб ня згубіць памяці:

„У лесе лёсым, лесу лёса“—гэта на звычайных сьмяртэльнікаў мове павінна значыць: „У вельмі харошым лесе, лесу вельмі шмат“.

Ну, але якая-ж гэта ўсё проза?!.. Хоць... Ага! ёсьць сэнс. Але-ж толькі, ці ня сьпісаў я гэта скуль? Не, здаецца, рэч зусім самабытная, мая ўласная, аўтэнтычная. Ну, ліха з ім, калі хто ўжо раней за мяне рабіў гэта. Запішам далейшае.

„Стоць стаіць яго мільён“ — стаіць яго, гэта значыць, лесу, лёсага лесу, мільён. Усе, як-бы зусім чалавечыя словы. А вось гэтае „стоць“? Што гэта за слова я ўпаліў? Нібы й падобнае крыху да нечага... Э! няхай застаецца сабе для прыгаства (тут таксама штучка: просты чалавек сказаў-бы „хараства“, але-ж я не магу гэтак, бо я поэт, больш таго, рэвалюцыянэр у поэзіі!).

„Глюгі бачу ў паднябёсах“. Зварот ня зусім звычайны; дый гэтае „глюгі“ замест „дзюбы“, ці што—ўсадзіў я тут дзеля рытму.

„Пруцца качкі на паўдзён“. Тут таксама вельмі праставата ўжо. Хаця—не! На канцы вось, людзі сказалі-б на поўдзень, але-ж якая тады была-б рыфма, а так, дык зусім музычна: на паўдзён — мільён...

Калі расшыфраваў я апошні радок свайго ўдалага соннага твору, дык скапыціўся неяк якраз на гэтых самых рыфмах і пачаў ужо снаваць адно на адно ўсе, якія толькі ў памяці траплялiся словы, часамі навет рыфмуючы іх. А словаў гэтак шмат было. Шкада, што хто-колечы не запісаў іх. Бо былі і зразумелыя й незразумелыя, і гучныя і зусім глухія, як якое. Ня шмат іх засталося ў памяці. А папрабую спомніць.

У гаспадарцы ёсьць аснуда,
Ці, як кажуць, інвэнтар,
Хата варыстая — кухня
І даручны й гаспадар.

Прыцікаўся да дзьвярэй я
І апратаваў кажух,
А ці чысьціў, ці адзеўся —
Разьбяры, хто калі зух.

У цямноце каля двору.
Трэба робіць нешта мне...
Клум на вуліцы падняўся
Ды таўпесіцца, кляне.

Вожкі-лейцы з рук пушчае
Нейкі спрытны павaждай
Кліча, некага гукае
Аж малістуе бадай.

У цэлым возе трасяненьне
Ды пахнючы нейкі дух;
Каля брамніцы здарэньне.
Памагатар, ці пастух

З страху прэцца пераз голаў
Аж пад самы намастыр...

«Ня было каму з ім пажупіць» прыйшла, памятаю, мне да галавы, залатая фраза.

Ну, і жыў ня буду, калі ня ўсуну яе ў якую-нібудзь беларускую хрэстаматыю. Хай вучацца небаракі-землякі, хай круцяць галовамі, пакуль не зрабіліся лянейшымі.

Прачнуўся я ад вострага болю ў жываце.

---

Прачнуўся і зразумеў, што ў ім таксама, як і ў галаве маёй мудрай пачыналася поўная рэвалюцыя.

А можа ад таго й напаў на мяне соннага гэткі арыгінальны беларускі футурызм.

Калі так, дык—не! Годзі! Хай лепей застаецца граматыка, як яна ёсьць, а слоўнік беларускі хай сабе сам народ павялічвае. Даволі мне гэтых гэніяльных твораў. А ні слаўца больш ня выдумаю. Не хачу навет і сьніць аб гэтым.

**Звончык.**

# Да конкрэктнай працы.

Тры з паловаю гады прайшло з дня абвешчаньня незалежнасьці Беларусі і амаль столькі-ж часу Беларускі Урад змушаны хіляцца за межамі пражываньня роднага народу.

Патрэбна было выявіць і перад Эўропай усе свае жаданьні, паказаць перад усім сьветам нашы справядлівыя дамаганьні, і многа Урадам зроблена ў гэтай справе. Ён завяршыў ўсё дэмонстрацыяй адзінага беларускага фронту перад тварам гэтага сьвету, аб‘ядняўшы кірункі беларускай думкі.

Але, як відно, здаецца, час ужо заняцца яшчэ і чымся іншым. Здаецца, што чад рэвалюцыі ўжо ўлягаецца і па ўсёй Эропе наступіў час рэальнае працы, выходзячы з тога становішча ў якім апынуўся кожны народ пасьля падрахункаў апошніх падзеяў.

Не гаворачы аб тых народах, якія выбіліся з віру цемры і нябыцьця на вольны сьвет, да істнаваньня, якія з энтузіязмам прыняліся за адбудову свайго жыцьця, не гаворачы аб народах пераможцах, для якіх вынiклі шырокія відакругі—і народы пераможаныя спазналі свае праўдзівыя становішчы, і прыняліся выходзіць з іх іншымі шляхамі, шляхамі падгатоўкі да новых разрахункаў.

Зьбітая, прыніжаная Нямеччына пачынае ўсю сілу свае энэргіі зварочваць на культурныя і гаспадарскія патрэбы і ідзе ўжо сьмела па гэтай дарозе...

Не пакладаюць рук і украінцы. На чужыне яны ствараюць свае вышэйшыя навуковыя інстытуцыі, як унівэрсытэт у Празе-Чэскай, каб падгатовіць кадры патрэбнай інтэлігэнцыі...

Цьвёрда сталі на грунт падгатоўкі культурных сілаў і велікарусы, разьехаўшыся па унівэрсытэтах цэлага сьвету і аб‘яднаныя на грунце гэтым у зьездзе ўсіх студэнтаў ў Празе (20. X. 21).

Можа час і нам падумаць шчыра аб нашым праўдзівымм становішчы і тых пэрспэктывах, якія адчыняюцца перад намі, каб з найлепшымі вынікамі скарыстаць час для падгатоўкі да новых магчымасьцяў.

Думаю, што ня ўсё будзе зроблена, калі навет і усьведамім эўропэйскае грамадзянства аб нашых ідэалах і праўдзівых дамаганьнях, мала будзе навет прылажыць сілы да ўсьведамленьня роднага народу ў межах разбораў.

Усё гэта патрэбна, але гэта яшчэ ня ўсё.

За граніцай апынулася шмат сыноў Беларусі. Ім, часта, навет немагчыма прыйсьці да народу, ды апроч таго думку грамадзянства ня можна ўціснуць у рамкі цеснай працы ў адным кірунку.

Есьць з другога боку шмат моладзі, якая знаходзіцца на паўдарозе, або на бездарожжы. Матар‘ял, які патрабуе проста выкарыстаньня. Апроч таго між народу такіх шмат ёсьць, якія марнуюцца дома. Адным словам ёсьць і жывы агонь і гаручы матар‘ял. А хто будзе адкідаць, што нам ня будзе патрэбна свая інтэлігэнцыя, мала таго, масавая інтэлігэнцыя, спэцыялі-

# МАСКАЛЁВЫ ДЗЕЦІ.

— А ці праўда гэта, дзядзьку, што маскалёвы дзеці, як былі малыя, дык ад людзей у крапіву хаваліся?

Гэтымі словамі спытаўся я пра маскалёвых дзяцей у сівога ўжо ўдаўца дзядзькі Сымона, з якім мы аднаго дня разам пасьвілі быдла.

— А як-жа? — пытаньнем адказаў, усьмяхнуўшыся дзядзька Сымон, — кшталтам, пане, дурныя: калі йдзеш, бывала, каля іхнай хаты ды спытаешся, ці ўдома бацькі, дык замест адказу, як шалёныя, пане, так і дадуць нурца ў каноплі цераз плот, альбо яшчэ ляпей проста ў крапіву, пане, што густа расла каля плоту.

Ведама, што меўшы дзесяць-адзінаццаць гадоў, я ніякім „панам“ ня быў да таго-ж яшчэ пасьвіў уласнае бацькава быдла па абавязку, даросшага да гэтага, сялянскага дзіцяці. А дзядзька Сымон вымяніў у гэты дзень свайго наёмнага пастушка, даўшы яму магчымасьць схадзіць да цэрквы, бо дзень быў сьвяточны. Слова „пане“ было любым прыслоўем дзядзькі Сымона; суседзі й ваколічныя сяляне гэтага слова звычайна паміж сабою ня ўжывалі і праз гэта дзядзька Сымон так і быў празваны „Панечкам“.

Даведаўшыся з першага пытаньня, што дзядзька Сымон добра знаем з дзіцячымі прывычкамі цяпер ужо дарослых, а некаторых нат‘ і замужніх ды жанатых маскалёвых дзяцей, я пачаў распытвацца ў яго далей аб неясных для мяне рэчах. Перш за ўсё, я ніяк ня мог зразумець, чаму гэта стары нябожчык бацька гэтых самых маскалёвых дзяцей, які меў імя Іван, меў гэтак сама і прозьвішча, якое займала апрача яго дому яшчэ дзьве хаты ў вёсцы, і, будучы чыстым беларусам, зваўся ўсё-ж такі маскалём, а жонка яго, нябожчыца, Мар‘я ня то што маскаліхай звалася, а навет проста маскоўкаю, хаця й яна была гэткаю жвавaю, мілаю й прыветнаю кабетай-беларускаю, якую цяпер трудна знайсьці.

Вось аб гэтым я й пачаў распытвацца далей у дзядзькі Сымона.

— А чаму гэта, дзядзечку, стары Іван нябожчык празываўся маскалём. Вось мы, напрыклад, Краўцовыя, дык гэта таму, што мой дзед, як кажуць, хоць быў і нябедны але любіў займацца кравецтвам і шыў кажухі. Ну, а вось Маскалёвыя адкуль пайшлі?

— А ні адкуль яны не пайшлі, хлопча,—зьмяніў сваё прыслоўе дзядзька Сымон, падумаўшы мусі, што нязручна называць „панам“ малога пастушка.

— Усе яны тут радзіліся, тут і паміpацімуць напэўна, але з гэтым маскальствам штука не малая. Вось калі, цікавішся, хлопча, дык раскажу табе, адкуль гэта пачалі іх празываць Маскалёвымі...

— Раскажэце, раскажэце, дзядзечку, вельмі-ж цікава,—перабіў я, ўвесь гатовы слухаць.

— Дык слухай-жа, хлопча. Сапраўды-такі маскалём быў некалі Іван. Дый яшчэ якім! Што гэта цяпер забіраюць маладых хлопцаў у войска, ў маскалі, значыць, на якіх чатыры-пяць гадоў, выкруцяць там, вымуштруюць, чалавекам, пане, зробяць, што як вернецца хто з маскалёў ды яшчэ з нашыўкамі на палетах, дык за яго найлепшая ваколічная дзеўчына замуж гатова пайсьці. А даўней, пане, зусім ня тое! Што служба, а што катарга трудна было адрозьніць. Іван нябожчык мікалаеўскім салдатам быў, а тады некруты па 25 гадоў цару служылі. Шчасьце Іванава яшчэ, што быў ён абаронцам Сэвастопалю, дык нейкую вільготу яму далі—толькі пятнаццаць гадоў прабыў у маскалёх, а дзесяць, цар яму, значыцца, дараваў, да хаты адпусьціў.

Але й за гэтыя пятнаццаць гадоў шмат чаго, хлопча, зьмянілася, зьмяніўся ведама й Іван наш, змаскалеў неяк, адсюль вось і празвала яго ўся вёска маскалём.

Але-ж слухай далей, хлопча! Гэта не бяда яшчэ, што змаскалеў Іван, а найгорш тое, што, выслужыўшы на вайне, мусі за адвагу, навет мідаль нейкі, ці крыжык і вярнуўшыся дадому, ніякага права на сваю дзель зямлі ад родных братоў сваіх не дастаў.

— Як-жа ж гэта? Ад родных братоў, кажаце?

— А так, так, хлопча; ад родных братоў сваіх Тодара й Мікалая, што гэтак сама, вечны пакой іх душам, паўміралі ўжо. А несправядлівыя былі яны людзі, хаця-ж затое й багатыры былі. Вун гэтулькі зямлі папрыкуплялі: Засьценкі, Крывулю ды Альхоўкі большую часьць. А беднаму маскалю Івану толькі дзесяцiну гароду адвялі ды курную хатку каля мосту, пэўна памятаеш яшчэ хатку на падпорах; там дзе й цяперашняя была. Гэту ўжо Мікалай, Іванаў сын, як ажаніўся, па сьмерці бацькі збудаваў.

Я жыва пачаў прыпамінаць, расказваючы дзядзькаві Сымону, што памятаю крыху старога Маскаля, але толькі тады ўжо, калі ён моцна хворы быў разам з наймалодшым сынам Сямёнчыкам. Я часта забягаў да Маскалёвых, бо нябожчыца „маскоўка“ была мая хрышчоная маці. А родная мая матуля, слаўная й нябедная гаспадыня абы каго за куму не папрасіла-б. Мусі вельмі разумнаю была маскалёва жонка, калі, ня гледзячы на беднасьць яе й курную хатку, матуля запрасіла яе ахрысьціць мяне. Мусі надта добрую душу мела гэта „маскоўка“, калі зусім малому мне й кампану майму Ўладыку свойскую табаку курыць не забараняла. А іншы раз, дык і зімовых яблыкаў позна ўвосень давала. Ды пры ўсім гэтым так міла, тоненька гаварыла. Голас яе, як-бы чуецца яшчэ ў маіх вушох. А стары Маскаль сядзеў толькі бывала на пасьцелі, падпершы галаву палкаю, накшталт літары „Т“. Цяжкая, мусі, яму ўжо галава была. Добры, здаецца, быў, ніколі мяне маленькага не страшыў. А ня тое зусім быў Тодар—брат Маскалёў: як зараве, бывала, на мяне, дык я стрымгалоў лячу хавацца ад яго. А Мікалая, наймалодшага маскалёвага брата я штосьці не прыпамінаю.

— Абодва нядобрымі і надта скупымі былі,—падхапіў дзядзька Сымон,—і Мікалай і Тодар горшымі былі за маскаля Івана, бо гэтак несправядліва пакрыўдзілі яго, ня лічачы навет за брата.

быў вельмі падкладны. Асоба, якую жадалі-б яны за ўсялякую цану скінуць, а на яе месца паставіць іншую, больш выгадную для свае палітычнае лініі, больш зродненую мінулым і ідэолёгіяю, — сама заявіла гатоўнасьць ухіленьня.

Хоць крытычная стадыя непаразуменьня мінулася і да крызысу мусі ня дойдзе, самая спрэчка не зьліквідована. Ня вычэрпаваюць яго ні компроміс самога Пілсудскага, ні ўрадовы проект разьвязкі з рознымі перасьцярогамі, над якім раіўся ўжо сэньёрэн-конвэнт і які стане яшчэ прадметам гарачых дыскусіяў і дэбатаў на розных камісіях і на пленуме сойму. Хоць як нявыгадная для большасьці варшаўскага сойму думка Пілсудскага, што векавыя спрэчкі не даюцца вырашаць дарогай меча, хоць з некаторымі перасьцярогамі, мусіла быць прынята, няпэўная аднак-жа рэч, каб другая яго думка, якую ён кінуў на пасяджэньні сэньёрэн-конвэнту, знайшла прызнаньне, а ўласна, што „воля зацікаўленых не павінна быць прыгнятана і ёй ня можна накідаць ніякіх плянаў, ні праграмаў зьверху“. Гэтыя словы маюць у сабе цэлую непопулярнасьць і на іх ніколі не пагодзіцца польская дзяржаўная думка“.

## КОРЭСПОНДЭНЦКІЯ ЎРАЖАНЬНІ.

Да гэтага часу ўся Ўсходняя Эўропа, ў рэзультаце войнаў унутрана-расейскай і польска-расейскай была закрыта ад Зах, Эўропы. Там нешта дзеялася, варылася, як у катле кіпела, крычала, маліла, прасіла — а з усяго гэтага шум і каша рабілася. Цяпер пачалося нешта накшталт „зносін“. Паехаў шмат хто адглядаць галодныя раёны.

І вось з іх допісаў Зах. Эўропа даведваецца ўжо сама, што робіцца.

Не праходзіцца міма становішча і ў Беларусі. У газэце „Trybuna“ зьмешчаны вялікі артыкул пад назовам: „Польска-Руская граніца“.

Прыводзім найболей характарныя месцы.

..... Ад Седлеца далей на усход ужо вельмі заметна, што дарога йдзе ў землі нядаўніх баёў. Спаленыя вакзалы, усюды зьнішчаныя масты, груды руінаў і кучы скручанага дроту.... служаць выразнымі прыпамінкамі баёў польска-рускіх. На пытаньне, хто прынёс няшчасьце на дамы гэтых людзей — усюды адказ, што гэта зрабілі палякі — пры адходзе ад Кіева і з Беларусі.....

Але яны й цяпер панамі вялікай часткі Беларусі, але такімі панамі, што грамадзянства цягнецца да волі, але ня ў бок Варшавы, а да савецкіх граніцаў, за якімі, па крайняй меры, згодна з назваю, беларускі народ мае аўтономію.

І няма дзіва. Гаспадарскі надзел надта малы, пагранічная мяжа праведзена выпадкова і нязгодна з этнографічнай ад'знакай.

Таму—беларускаму селяніну лепей сымпатызаваць саветам, дзе ў канцы канцоў ён мае свой голас, чым польскаму панству, каторае грaзіць затаптаць яго землі колёністымі і земляўласьнікамі, што вяртаюцца, і пры гэтым аб палітычных і грамадзянскіх правох не дае навет і сьніць“.

Далей апісваецца становішча ўцекачоў, якія варочаюцца дадому.

„Абразкі, якія відзіш на польска рускай граніцы, ўсхвалёўваюць заходнаэўропэйскага чалавека да глыбіні душы ...

.... Сто белых твараў цясьніцца ля дзьвярэй вагона, нясе запах сырасьці і шырыцца па цэлай лясной даліне. Як толькі застанаўліваецца лёкомотыў, рухліва імкнецца натоўп людзей, паўадзетых, у большасьці босых, у прымітыўным абадраным адзетку....

.... Іх фізіяноміі і рухі маюць у сабе мала чалавечага, поўзаюць па лагеры, як галодныя зданьні, трагічнымі жэстамі зьдзіраючы лупіны з бульбы, яец, спаленай кары і глыкаючы ўсё, што толькі годна хоць чуць для яды.

Тымчасам, выходзяць з вагонаў кабеты з вялікімі клумкамі ўсяго мажлівага, запальваюцца агні і варыцца заціркa з сушаных рыбаў, захованых гдзесьці ў глыбіне клумкаў і вялізных кішанёў. Хлеба ані скібкі, аднак савецкіх грошай цэлыя груды. І на гэтыя грошы прыходзяць чалавечыя гыены : ... прапануюць чорны польскі хлеб, зьмешаны з пяском на маскоўскія, або навет заморскія цэны 3—5 тысяч адзін фунт. І вось так набытыя рублікі праз рукі лоўкіх людцоў або праз кур'ераў зноў варочаюцца да Расеі....

Ужо ў дарозе трэйці месяц, есьці даставалі па аднаму па два разы ў тыдзень, а рэшту мусілі сабраць, жабруючы каля дарогі, або крадучы“....

У другім месцы (№ 240), разьбіраючы справу дапамогі рускім галодным і наогул адраджэньня Расеі, газэта датыкаецца справы нацыянальнай а асабліва адносін між укр. і велікарусамі і заканчвае перадавы артыкул.

„Ня хочам папераджаці вынікі падзеяў і цьвярдзіць, што ў роўным становішчы будуць абодва народы і па рэжыме бальшавіцкім Усё-ж павінны ўсім рускім дзеячом прыпомніць, што цяпер час паставіць мост да сэрца тых народаў, якія былі доўга прыкованы да велікадзяржаўнага цырату, які зрабіў з іх праціўнікаў кожнага рускага. Рускія павінны шукаць дапамогі найперш у сябе і зьмірыцца з народамі „окраинными“ ў моцы якіх хлебная жытніца былога рускага гаспадарства.

Эўропа ня можа ня бачыць, што шлях да рускага адраджэньня вядзе з Захаду, праз землі акраінных народаў, якія могуць памагчы болей, ніж маламоцная філёнтропія.

## КОЎНА.

*(Ад уласнага корэспондэнта).*

### Паварот званоў.

З Маскоўшчыны ўжо прывезьлі частку званоў, зьнятых з касьцёлаў і цэркваў Ковеншчыны, Віленшчыны і Горадзеншчыны падчас сусьветнай вайны і эвакуаваных да Маскоўшчыны. Усе прывезеныя званы былі выстаўлены на сельска-гаспадарскай выстаўцы ў Коўні. Сярод прывезеных званоў знайходзяцца званы з Віленскай Катэдры і Горадзенскае царквы (былога Софійскага сабору).

Таксама вярнулі маскалі частку архіваў. Архівы зьмешчаны на VI форце, дзе адбываецца рэмонт для прыстасаваньня фартовых памяшканьняў пад архіў. Дзеля нагляду за архіўнымі справамі створана Архіўная Камісія, на чале якой стаяць проф. Е. Вольтэр і гэн.-лейт. д-р Нагэвіч.

### У Беларускім Асобным Батальёне.

27 кастрычніка адбыліся ўрачыстыя праводзіны былога камандзера батальёну палкоўніка Усьпенскага, переведзенага ў Гэнэральны Штаб; батальён прыняў новы камандзер маёр Розманас.

### Цікавы двайнік.

У 1919 годзе з Беларускага батальёну літоўск. войска ўцёк старшы лейтэнант Андрэй Парахоўнікаў, за якім лічыўся цэлы рад недахватаў па гаспадарцы і прыватных даўгоў. Праз яго расстраляны жаўнер 4 Белар. Асобнай Кампаніі. Цяперака, як даведаліся ў Коўні, Парахоўнікаў працуе ў Канстантынопалі, як беларус з паперамі на імя паручніка Рыгора Маёрава. Але гэты апошні ахвіцэр служыць сабе ў Ліцьве!

### Трагічныя сьмерці.

Былы камандзер 11-ай Беларускай Асобнай Кампаніі маёр Андрэй Ганзэн, па звальненьні з войска, выехаў з Літвы да Бразыліі. Падчас падарожы, параход, на якім ехаў Ганзэн з жонкай і 5 маленькімі дзяцьмі, патануў, Ганзэн загінуў са ўсей сям'ёй.

Былы ахвіцэр 2-е Б. А. К. Апанас Кур'ян, уцёкшы з Літвы да Балаховіча застрэлены нядаўна сваім братам у спрэчцы.

А. С.

## Палітычная хроніка.

*Пятніца, 25 лістапада.*

— У Пазнані выкрыта камуністычная арганізацыя, якая мела зрабіць бальшавіцкае паўстаньне.

— Польскі віцэ-міністар Дунікоўскі працуе над проектам аўтаноміі Усходняе Галіцыі. Аўтаномія мае быць ваяводзкаю, а не тэрыторыяльнаю.

— З прычыны непарадкаў пры падарожы гэрцога Уэльскага па Індыі, Бомбэй абвешчаны на абложным палажэньні; ўсе месты, куды прыяжджае гэрцог таксама абвяшчаюцца абложанымі.

— „Rzeczpospolita“ паведамляе аб падпісаньні гаспадарчага дагавору паміж Францыяй і Польшчаю і польскаю часткаю Верхняе Сьлезіі.

— Польскі прэм'ер Панікоўскі разам з міністрамі Міхальскім, Дароўскім і Страсбургэрам прыняў дэлегацыю профэсыянальных саюзаў, расплумачыўшы ёй, якія прыняты меры для ліквідацыі крызысу прамысловасьці.

— Польскае міністэрства заграннічных справаў адтрымала савецкую ноту абвінавачаньня польскае палітычнае паліцыі ў жаданьні выклікаць нелёяльныя адносіны да польскага ўраду з боку асобных сяброў савецкай місіі ў Варшаве. Міністэрства адказала, што яно распарадзілася забясьпечыць савецкае пасольства ад розных асобаў.

— Нямецкая дэлегацыя зрабіла прапазыцыю перанясьці польска-нямецкія перагаворы з Жэнэвы ў В. Сьлезію. Гэта будзе разглядацца Лігаю Народаў.

— Літоўская дэлегацыя ў Вашынгтоне заявіла протэст проці актаў тэрорызму ў адносінах да ліцьвіноў у Вільні й Віленшчыне.

— Нямецкі міліярдэр Штынэс вядзе ў Лёндане перагаворы з Лейд-Джорджам аб супольнай ангельска-нямецкай эксплёатацыі Расеі. Перагаворы йдуць не бяз контакту з бальшавіцкім прадстаўніком Красіным.

— У Нямеччыне камуністычныя непарадкі, якія энэргічна гасяцца ўрадам.

— У Варшаву прыбывае новы лацьвійскі пасол Вукша.

— У Пазнані адбыўся вялізны мітынг дзяржаўных вураднікаў і вольнай інтэлігэнцыі. Гаварылася аб паляпшэньні палажэньня вураднікаў.

— Прускае міністэрства унутраных справаў выдала распараджэньне аб высяленьні ўсіх чужаземцаў, шкодных для дзяржавы.

— Францускі міністар фінансаў Люшэр заявіў, што Францыя будзе дамагацца акуратнае выплаты Нямеччынай належнай часьці контрыбуцыі.

— У Маскву прыехала нямецкая гандлёвая дэлегацыя на чале з Гэрманам, які заявіў, што камісія ня мае ніякіх палітычных мэтаў.

— Пры рэвізіі камуністычнае партыі па Гомельскай губэрні ў Быхаўскім павеце выдалена з партыі 45%, у Клімавіцкім пав. 21%.

— Баўгарскі ўрад згадзіўся пусьціць у Баўгарыю 7.000 уцекачоў з арміі Врангеля, якія цяпер знаходзяцца ў Галіполі.

*Субота, 26 лістапада.*

— Палкоўнік Шардыны і Бэржэра выехалі з Коўна ў Варшаву на тыдзень. Перад выездам Шардыны меў гутарку з мін. Пурыцкісам і Гальваноўскім.

— Сэньёрэн-конвэнт Польскага Сойму разгледзеў проект суду гонару дзеля соймавых паслоў.

— Перад выездам з Амэрыкі францускі прэм'ер-міністар Брыян выказаў вялікае задаваленьне вашынгтонскай конфэрэнцыяй.

— 25. XI дэлегацыя пяцёх галоўных дзяржаваў на вашынгтонскай конфэрэнцыі займалася справаю разбраеньня на сухапуцьці. Брыян заявіў, што Францыя зьменшыць армію, калі іншыя дзяржавы падзеляць з ёю магчымы на яе напад; а бяз гэткае гарантыі абмежаваньне ўзбраеньня немагчыма.

— Паводлуг вестак з Львова, украінскае прэс-бюро перадае аб заняцьці паўстанцамі Тырасполю і перарыве чугуначнай лініі Кіеў-Адэса.

— Украінскае прэс - бюро ў Швайцарыі паведамляе, што паўстанцы разьбілі дзьве брыгады бальшавіцкага войска. Аддзелы атамана Чорнага зьнішчылі 130-ю чырвоную дывізію. Разьбіта бальшавіцкая дывізія ў районе Карасьценя. Адзін з атаманаў перайшоў Днепр паміж Чаркасамі і Каневам.

— Эканамічная конфэрэнцыя ў Рызе паміж балтыцкімі дзяржавамі й Сав. Расеяй скончылася. У жыцьцё незабаўна маюць быць праведзены шмат якія пастановы аб водным і сухапутным транспорце, а таксама шмат спэцыяльных проектаў.

— Амэрыка мае даць Нямеччыне крэдыт у размеры 20 мільёнаў даляраў.

— Польская рада міністраў зацьвярдзіла дагавор аб непасрэдным чугуначным злучэньні паміж Польшчаю й Румыніяй.

— У Маскву выехаў з Варшавы польскі пасол Стэфанскі. Перад выездам ён меў доўгую нараду з Начальнікам гаспадарства.

— Бывшы польскі пасол у Маскве Т. Філіповіч назначаны старшынёю камісіі дзеля дапамогі галодным у Расеі.

— Польскія міністры Міхальскі, Дароўскі і старшыня польскае дэлегацыі ў рэпатрыяцыйнай камісіі п. Корсак выехалі з Варшавы дзеля інспэкцыі ўсходняе граніцы.

— У Стоўбцы прыбывае савецкая дэлегацыя дзеля перагавораў з польскай дэлегацыяй аб аднаўленьні чугуначнага злучэньня Расеі з Польшчаю.

— Аўстрыйская крона на заграничных рынках зраўнялася з польскаю маркай. Праз абніжэньне курсу кроны, ў Вене заўважаецца падрастаньне дарагоўлі.

— Выбары ў бэльгійскі парлямэнт далі перамогу каталіцкай партыі над левымі.

— 24. XI ў Празе (Чэхаславакія) пачалася забастоўка ў тэкстыльнай прамысловасьці.

— Савецкія ўлады вядуць перагаворы з групаю амэрыканскіх і нямецкіх прамыслоўцаў аб адбудоўцы Петраграду. „Правда“ паведамляе, што работы па наданьню Петраграду даваеннага выгляду пачнуцца вясною.

— Маскоўская рада народных камісараў займаецца проектам зьнішчэньня прымусовае працы для тых, хто не зьяўляецца спэцыялістым.

*Нядзеля, 27 лістапада.*

Лёрд Кэрзон у аднэй з сваіх прамоваў заявіў, што міру дасюль не ўдалося дасягнуць. У Вашынгтоне дабіліся абмежаваньня марскіх азбраеньняў, але патрэбна дайсьці й да абмежаваньня сухапутных арміяў.

— На адным з апошніх пасяджэньняў вашынгтонскае конфэрэнцыі разглядалася пытаньне аб Расеі. Пастаноўлена, што прызнаньне саветамі даваенных даўгоў нічым ня зьменіць палажэньня, таму што сав. ўрад павінен таксама прызнаць прыватную ўласнасьць і вярнуць яе.

— Газэтныя весткі з Лёндану сьведчаць, што міністар заграничных

справаў лёрд Кэрзон падаецца ў адстаўку. Прычына—непаразуменьне паміж Англіяй і Францыяй праз заключэньне апошняю дагавору з кэмалістымі. Намесьнікам Кэрзона мае быць лёрд Дэрбі.

— „Известия“ перадаюць трывожныя чуткі аб масавых выступленьнях рабочых з камуністычнае партыі і аб бязладзьдзі ў чырвонай арміі на грунце недаяданьня.

— У Маскву прыбыла нямецкая дэлегацыя дзеля заключэньня і падпісаньня афіцыяльнага расейска-нямецкага гандлёвага дагавору.

— Прэм'ер-міністар Галяндыі Штэгэрвальд сказаў у Амстэрдаме прамову аб няўхільнасьці згоды паміж Нямеччынай і нэйтральнымі дзяржавамі.

— Паводлуг вестак з Бэрліну, з прычыны павялічэньня заказаў дзеля нямецкіх фабрык, у некаторых з іх самі рабочыя выступілі з проектам 10-гадзіннага рабочага дня.

— Начальнік Вэнгрыі Хорты даручыў Бэтлену стварэньне новага кабінэту.

— Паводлуг няпоўнага падлічэньня, бюджэт места Варшавы на 1921 г. прадугледжвае 2 мільярды даходаў і 7 мільярдаў расходаў. Дэфіцыт даходзіць да 5 мільярдаў.

— Камітэт 2-га Інтэрнацыяналу прыняў рэзалюцыю аб скліканьні міжнароднае соцыялістычнае конфэрэнцыі дзеля ўзмацненьня міжнароднай еднасьці і працы па разбройваньню Эўропы.

— Эвакуацыя японскіх войскаў з Сыбіру адбудзецца ў бліжэйшым часе.

— З прычыны свае хваробы, японскі імпэратар назначыў насьледніка трону рэгэнтам.

— У Рыме падчас маніфэстацыі інвалідаў адбыліся спатычкі з паліцыяй, 19 чалавек ранена.

— Фінская прэса паведамляе аб пашырэньні паўстанчага руху па Захадняй Карэліі. Горад Олонецк у руках паўстанцаў. Петразаводзк абложаны паўстанцамі.

— Стогадовы юбілей лацьвійскае прэсы будзе ўрачыста сьвяткавацца 17 студня 1922 году.

*Панядзелак, 28 лістапада.*

— „Рідний Край“ дэталічна апісвае заняцьце паўстанцамі Житоміра, які баранілі 20.000 бальшавікоў.

— Газэты паведамляюць, што Польшча гатова на непасрэдную згоду з Літвою, каб урэгуляваць шмат якія балючыя пытаньні, як напр. чугуначнае злучэньне паміж абодвума краямі і зварот інтэрнаваных.

— У польскім міністэрсьцьве заграцічных справаў рыхтуецца новая нота саветам па прычыне далейшага тэндэнцыйнага невыпаўненьня імі забавязаньняў, прынятых рыскім дагаворам.

— Амэрыканскія газэты пішуць, што пэўным зусім рэзультатам вашынгтонскае конфэрэнцыі зьяўляецца тое, што англа-японскі саюз ня будзе разарваны. Амэрыка рыхтуецца да компромісьнага дагавору з Англіяй, але заключыць яго мае толькі пасьля таго, як адбудзецца асобны дагавор з Японіяй.

— Старшыня нямецкай гандлёвай дэлегацыі ў Маскве д-р Гэрман заявіў прадстаўніком прэсы, што мэтаю дэлегацыі зьяўляюцца перагаворы з народным камісарыятам земляробства аб забесьпячэньні Расеі насеньнем і сельска-гасп. машынамі. Перагаворы ўжо пачаліся.

— Быўшыя сябры ўсерасейскага камітэту падмогі галодным — Пракаповіч, Кускова, Кішкін, Осоргін і Коробов пастановаю чразвычайкі высылаюцца адміністрацыйна ў Вятскую і Казанскую губэрні.

— Усяго тры немцы - судзьдзі далі згоду застацца на службе ў польскай часьці Верхняе Сьлезіі.

— Папярэднія перагаворы палякоў з немцамі ў Жэнэве носяць лагодны характар. Некаторыя камісіі маюць працаваць у Катовіцах, ці ў Каралеўскай-Гуце.

*Аўторак, 29 лістапада.*

— Сотня студэнтаў, абураных нядобрай заяваю Брыяна аб італьянскай арміі напала на францускае консульства ў Турыне. Паліцыя разагнала нападаўшых.

— „Правда“ паведамляе, што расейска-італьянскі дагавор яшчэ не падпісаны дзеля непаразуменьняў паміж абедзьвюма дзяржавамі.

— Як паведамляюць нямецкія газэты, перад зачыненьнем вашынгтонскае конфэрэнцыі будуць запрошаны на конфэрэнцыю прадстаўнікі Нямеччыны й Расеі

— „Times“ перадае з Прэсбургу, што там выкрыты згавор, які меў мэтаю забіць міністра Бэнэша.

— Дзяржавы Малое Антанты пастанавілі агульна протэставаць проці трэбаваньня нясьці расходы па утрыманьню экс-караля Кароля.

— Шардыні меў конфэрэнцыю з польскім міністрам заграчічных справаў Скірмунтам. Гаварылася аб непасрэдных перагаворах паміж Літвою і Польшчаю.

— Польшча адказала на ноту украінскага сав. ураду, заяўляючы што полеміка аб паўстанчым руху лічыцца вычарпанаю.

— „Journal“ передае, што ангельскі ўрад пастанавіў прызнаць вісбадэнскі дагавор, які рэгулюе заплату ў натуры нямецкае контрыбуцыі.

— 27 лістапада ў Пазнань прыехала рада польскіх міністраў на чале з прэм'ерам Панікоўскім.

— Новы кабінэт у Бэльгіі даручана злажыць Джаспэру.

— Польская і нямецкая дэлегацыі выяжджаюць з Жэнэвы.

— У Варшаве йдуць польска-чэскія гандлёвыя перагаворы.

— 25 лістапада ў Бэльвэдэры (Варшава) падаў свае паўнамоцніцкія граматы аўстрыйскі пасол Мікалай Пост.

— Прэм'ер-міністар Францыі Брыян пакінуў Вашынгтон.

— Аг. „Havas“ паведамляе з Коўна, што Гальванаўскас моцна ранены бомбаю, кіненаю ў прыватную яго кватэру праз вакно.

— У выпадку ўдачнага рэзультату працы вашынгтонскай конфэрэнцыі прэзыдэнт Злучаных Штатаў Гардынг мае зьвярнуцца да ўсіх дзяржаваў у тым ліку й да Нямеччыны з просьбаю аб зацьвярджэньні пастановаў конфэрэнцыі.

*Серада, 30-га лістапада.*

— Чычэрын мае выехаць у Ангору, каб быць на нарадах прадстаўнікоў Расеі, Турцыі, Пэрсіі, Індыі, Афганістану і каўкаскіх рэспублікаў.

— „Daily Mail“ перадае з Гэльсінгфорсу, што Кіеў абложаны з трох бакоў і знаходзіцца напярэдадні капітуляцыі. 60 тысячная сялянская армія паўстанцаў Украіны маршуе на Адэсу.

— „Vorwarts“ зьмяшчае пісьмо камуністага Вэгнэра, які павінен быў падарваць тры караблі коаліцыі, што стаяць у Штэтыне. Пракуратура пачала сьледзтва.

— Некаторыя амэрыканскія газэты паведамляюць, што далейшыя пасяджэньні вашынгтонскае конфэрэнцыі адкладваюцца да сярэдзіны сьнежня.

— У францускім парлямэнце адбыўся нябывалы скандал пры чытаньні Кашэнам, Бэртонам і Ляфонам інтэрпэляцыі аб паўстаньні матросаў на Чорным моры пры вайне з бальшавікамі. Інтэрпэлянты выключаны часова з парлямэнцкіх пасяджэньняў і аштрафаваны.

— Раптоўна памёр пасол Польскага сойму Бэрнард Дыяманд.

— Паўстанцкі Урад Карэліі паслаў савецкаму прадстаўніку ў Гэльсінгфорсе ноту аб незабаўным вывадзе савецкага войска з Карэліі.

— Менская бальшавіцкая газэта „Młot“ перадае праграму зьезду польскіх камуністых у Менску і выясьняе патрэбу перакінуць камуністычную работу палякоў у межы Польшчы.

— Памёр пачынальнік соцыяль-дэмократычнага руху ў Англіі Гайдман.

— У Сав. Расеі ўведзены падатак на сернічкі ў суме 300 рублёў за скрыначку ў 73 штукі.

*Чацьвер, 1 сьнежня.*

— Лёйд-Джордж мае выехаць у Вашынгтон. Перагаворы з Ірляндыяй будуць вясьці Бюркэнгід і Чэмбэрлэн.

— Нямеччына назначыла 35 экспэртаў дзеля гаспадарчых перагавораў з Польшчаю.

„Berl. Tid.“ паведамляе, што па забраньні Житоміра паўстанцамі было расстрэлена 3.000 бальшавікоў.

— Гарадзкія рабочыя ў Бэрліне агаласілі агульную забастоўку. Горад без вады і сьвятла.

Маскоўская рада народных камісараў выпусьціла дэкрэт аб грашавой рэформе. Маюць выйсьці крэдыткі ў 1, 3, 5, 10, 25 100, 250 і 1000 рублёў. Адзін новы рубель будзе хадзіць за 10 тыс. савецкіх рублёў.

— Прадстаўнікі Ульстэру адмовіліся быць у агульным ірляндзкім парлямэнце.

— Паводлуг вестак львоўскае газэты „Рідний Край“ паўстаньне на Украіне расьце, набываючы нязвычайнай сілы.

# Жыцьцё провінцыі.

## Ох, і начальства!

**СІНЯЎСКАЯ ВОЛАСЬЦЬ, Несьвіск. пав.**

Дагэтуль у нашай воласьці ўсё рабілася палюдзку, але як на бяду ня вельмі даўно прыслалі ў воласьць новага пісара. Здавалася-б невялікае начальства—пісар валасны, але паказаў ён веліч свайго чына. Здарылася мне па аднэй патрэбе быць у воласьці. Ну, і ўгледзіў я тут зьдзек над нашым братам—беларусам. Лае гэны паніч нашых бацькоў і папольску і памаскоўску (chamy, bydło) і г. д., хватаецца за палку і трасучы ў паветры, гоніцца за імі, пакуль не павыганяе ажно на вуліцу; іншы дык і на абаранкі заробіць. Бегае па зборнай, як няпрытомны, не зьвяртаючы ўвагі на старых кабет, пхае іх, што ажно некаторыя падаюць. Стаяць каля дзьвярэй гміны сяляне, трасуцца ад страху, каб хаця скончыць справу і сухім выйці ад гэтага новага пана.

Справы ў кастрычніку гэткія былі: падавалі бацькі, няздольныя да працы, просьбу да Камісі Пераглядовае, каб іх сынком далі адсрочку. Вось тут так добра прышлося ім пазнаць гэтага пана. Трэба было падаць просьбу цераз воласьць да Камісіі, але пісару гэныя прашэньні не падабаліся, бо ня ён пісаў, і адмовіўся прыняць, сказаўшы, што за яго лепш ніхто не напіша. Мусіць добра ён напісаў, бо за кожнае прашэньне злупіў найменш пяць, альбо дзесяць тысяч за які дзесятак слоў. Хто граша за душой ня меў, дык асьмеліўся падаць тое прашэньне, што яму другія напісалі, але пісар гэныя прашэньні парваў і траха мэтрыкаў ня зьнішчыў, а яны-ж, гэныя мэтрыкі, гэтак сама многа каштуюць. Трыста, ці больш марак за кожную асобу трэба плаціць сьвяшчэньніку, што зьмесьціць на гэтым кавалачку паперы, а іх, гэтых асоб, штук дзесяць бывае і больш. Нарэшце і жонка пісарава захацела зарабіць, да якое пісар пасылае за штамплёвымі маркамі да прашэньняў, яна замест дзесяцёх марак—пятнаццаць бярэ.

**Селянін.**

**М. КРЫНКІ, Горадзенскага пав.**

**Арыгінальная прапазыцыя.**

Гурток польскае моладзі ў Крынках, запрапанаваў Беларускаму Гуртку зьліцца ў адно агульнае „Кулко“, абяцаючы пры гэтым дужа многа добрага. Беларускі Гурток застаецца сам сабою.

**Якраз сучаснае пытаньне.**

Вядомая „адраджэнка - беларуска“ Вольга Пратасэвічанка, раней вельмі шчыра працаваўшая на беларускай ніве, цяпер дала супакой сваім мазгом, паставіўшы справу Беларусі на якар.

Ходзіць дзейка, быццам усю спрытнасьць свайго розуму яна скіравала на вырашэньне пытаньня: „заставацца праваслаўнай, ці прыняць каталіцтва?“

**Мітрыволь.**

# Беларуская хроніка.

## Сьвяткаваньне ўгодкаў Слуцкага паўстаньня.

У суботу, 19 лістапада г. г. ў кватэры Беларускага Музыкальна-Драматычнага Гуртка з прычыны першых угодкаў Слуцкага паўстаньня адбылося ўрачыстае пасяджэньне Віленскага Беларускага Нацыянальнага Камітэту, на якім былі і гэткія прадстаўнікі іншых тутэйшых нацыянальнасьцяў: ад П. П. С. грамадзяне Заштаўт і Годвад, ад Ліцьвіноў—грам. Аўгустайціс, Мічулайціс і Стадзевіч ад Жыдоў—доктар Шабад.

Адчыняючы пасяджэньне, Старшыня Нацыянальнага Камітэту грамадзянін Ф. Ярэміч зазначыў важнасьць Слуцкага паўстаньня, як актыўнага протэсту Беларускага Народу проці чужацкага гвалту.

Затым доўгі рэфэрат аб паустаньні прачытаў Старшыня быўшае Слуцкае Рады грам. Пракулевіч.

Пасьля гэтага з вялікай прамоваю выступіў, вітаючы прадстаўнікоў суседніх нацыянальнасьцяў, кс. Адам Станкевіч.

Грамадзянін Заштаўт ад імя працоўных польскіх масаў вітаў прысутных папольску.

Грам. Аўгустайціс сказаў прамову палітоўску, скончыўшы яе беларускімі словамі: „Няхай жыве Вольная, Непадзельная Беларусь!“

Д-р Шабад пачаў гаварыць пажыдоўску, але адразу перайшоў на расейскую мову, саслаўшыся на тое што яна для ўсіх, быўшых па насяджэньні, зразумелая. З месцаў пачуўся воклік: «Просім пажыдоўску!»..

Зараз-жа на зачыненьні пасяджэньня на сцэне пачаўся дывэртысмэнт. Былі паказаны I і XII абразы „Адвечнай песьні“ Янкі Купалы. Дэклямаваліся вершы Купалы, Багдановіча, Ясакара і Гаруна.

Хор прапеяў гымны „А хто там ідзе“ і ў канцы „Адвеку мы спалі“, а таксама «Ваяцкі гымн» і шмат народных сьпеваў.

Сьвята закончылася агульнай вячэраю, за якою былі сказаны шмат-кім прамовы на тэмы ўрачыстага момэнту.

## Саюз студэнтаў.

Ў нядзелю, 27. XI ў залі Беларускага Музыкальна - Драматычнага Гуртка (Біскупская 12) адбыўся сход студэнтаў беларусоў, на якім было да 40 прысутных

